www.nv-online.info

№ 43 (4090)

7 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ТЫМ ЧАСАМ...**

**Выбары ў Палату прадстаўнікоў прызначаны на 11 верасня 2016 года. Выбары ў Савет Рэспублікі адбудуцца з 18 чэрвеня па 18 верасня 2016 года.**

**SOS!**

# Замах расійскіх імперцаў на дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі

Як вядома, 28 мая ў Маскве адбылося пасяджэнне «Общерусского национального движения», на якім зацверджана палітычная дэкларацыя гэтай арганізацыі. У прыватнасці, у дэкларацыі заяўлена:

*«Мы выступаем за объединение РФ, Украины, Белоруссии, а также иных русских земель в едином общерусском государстве и превращение всей территории бывшего СССР в безусловную русскую зону влияния».*

Заўважце, шаноўныя грамадзяне Беларусі: яны, маскоўскія шавіністы-імперцы, ужо пазбавілі нас роднай зямлі! Мы жывём, аказваецца, на іх *"русских землях»*, якія павінны быць *"в едином общерусском государстве»*. І наогул, іх вар'яцкая мэта – *"превращение всей территории бывшего СССР в безусловную русскую зону влияния»*.

Фашызм у аголеным выглядзе!

Ёсць усе падставы лічыць, што ён падымае галаву з непрыхаванага дазволу Крамля. У любой цывілізаванай краіне за такія экстрэмісцкія пагражае турма, а вось у Белакаменнай ім, раз'юшаным шавіністам, поўная вольніца. Другі тыдзень пайшоў пасля публічнага зборышча адпетых імперцаў, а ні Пуцін, ні Мядзведзеў, ніхто з іншых высокіх асоб Расіі не прамовілі і слова ў асуджэнне тых, хто адкрыта заклікае да здзяйснення замаху на дзяржаўнасць і суверэнітэт Беларусі, Украіны, на ператварэнне ўсёй былой тэрыторыі СССР у безумоўную рускую зону ўплыву.

Патрыёты Беларусі б'юць у званы: Айчына ў небяспецы!

З гэтай трывожнай нагоды рух «За дзяржаўнасць і незалежнасць», які ачольвае экс-кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, вядомы паэт Уладзімір Някляеў, прыняў спецыяльную заяву. Патрыёты краіны разглядаюць дэкларацыю "Общерусского национального движения" як *"замах імперскіх, шавіністычных сіл Расіі на дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі. Спосабы «объединения и превращения всей территории бывшего СССР в безусловную русскую зону влияния», якімі не ў дэкларацыях, а ў рэальнасці карыстаюцца кіраўнік «Общерусского национального движения» І.Стралкоў і ягоныя хаўруснікі, прадэманстраваны ўсяму свету ва Украіне.*

*Як напярэдадні спробы анексіі ўсходняй Украіны пад шыльдамі культурніцкіх, рэлігійных супольнасцяў расійскімі чарнасоценнымі сіламі ствараліся антыўкраінскія арганізацыі, пашыраліся сепаратысцкія настроі, гэтак цяпер у Беларусі тымі ж сіламі пад тымі ж шыльдамі ствараюцца арганізацыі антыбеларускія. Працягам такой дзейнасці, зусім верагодна, можа стаць абвяшчэнне групоўкай маргіналаў і баевікоў якой-небудзь ВНР ("Віцебскай Народнай Рэспублікі") з усімі вядомымі на досведзе Украіны наступствамі.*

*Мы заклікаем беларусаў быць пільнымі!*

*Выступаючы за добрасуседства і з РФ, і з Украінай, і з краінамі ЕС, мы заяўляем аб нашай рашучасці супрацьстаяць любым намерам пазбавіць Беларусь дзяржаўнага суверэнітэту, за які будзем змагацца ўсімі сіламі і спосабамі. Мы захаваем цэласнасць, дзяржаўнасць і незалежнасць нашай Айчыны, чаго б нам гэта ні каштавала".*

Безумоўна, пад гэтымі словамі могуць падпісацца мільёны сумленных грамадзян Беларусі.

І расійскія шавіністы-імперцы павінны ведаць, што патрыёты нашай роднай зямлі зробяць усё для абароны Айчыны, чаго б гэта ні каштавала.

***Жыве Беларусь!***




**СІТУАЦЫЯ**

## Ніна Багінская зноў з пральнай машынай і мікрахвалёўкай

*Але канфіскаваная маёмасць да яе так і не вярнулася.*

Выпадак, які здарыўся з грамадзянскай актывісткай **Нінай Багінскай**, выклікаў абурэнне ў чытачоў "Народнай Волі". Нагадаем, што напрыканцы мая судовыя выканаўцы апісалі яе маёмасць, забралі пральную машыну і мікрахвалёўку, а таксама наклалі арышт на дачныя ўчасткі ў Дамашанах і Мар'інай Горцы.

Прычына ў тым, што на 69-гадовую актывістку, якая прыходзіць на кожную акцыю з бел-чырвона-белым сцягам, неаднаразова складалі пратаколы. Але Багінская прынцыпова ігнаравала судовыя працэсы, бо лічыць іх марнаваннем часу. Таму з яе пенсіі штомесяц вылічвалі па 500 тысяч рублёў. Паколькі больш нельга па законе, судовыя выканаўцы вырашылі зрабіць "ход канём", апісаўшы маёмасць актывісткі.

Змагацца з такой несправядлівасцю вырашылі двума шляхамі. Дзеці Багінскай накіравалі ў суд скаргу. Да дакумента яны прыклалі дакументы на куплю-продаж тэхнікі, якія сведчаць, што пральная машына і мікрахвалёўка належаць ім. Але судовае разбіральніцтва – справа не хуткая. Каб Ніна Багінская не адчувала дыскамфорту ў прыватным жыцці, актывістка грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь» **Юлія Сцяпанава** ініцыіравала для яе збор сродкаў. За пяць дзён неабыякавыя беларусы сабралі патрэбную суму на пральную машыну і мікрахвалёўку. Як адзначыла Сцяпанава, пасля кансультацый з юрыстамі грошы аформлены як падарунак на праўнука Ніны Багінскай (каб прадухіліць магчымасць паўторнай канфіскацыі).

**Вадзім БРОННІКАЎ.**

**ЭКАНОМІКА**

## Кожнага пятага звольняць?

Еўразійскі банк развіцця запатрабаваў скараціць на 20% колькасць занятых у эканоміцы.

Такая ацэнка прыводзіцца ў апублікаваным заключэнні Еўразійскага банка развіцця (ЕАБР) у сувязі з крэдытнай праграмай для Беларусі, паведамляе БелаПАН.

*«Наяўнасць значнай залішняй занятасці ў эканоміцы Беларусі (паводле ацэнкі кіраўніка – блізу 20%) з'яўляецца адным з ключавых фактараў фарміравання няўстойлівых макраэканамічных дысбалансаў, уключаючы дысбаланс паміж узроўнем рэальных наяўных даходаў і прадукцыйнасцю працы»*, – гаворыцца ў заключэнні ЕАБР.

Згодна з умовамі атрымання еўразійскага крэдыту, беларускія ўлады ў 2016–2017 гадах павінны будуць таксама скарачаць дзяржпадтрымку прадпрыемстваў, якая выдаецца ў форме дырэктыўных крэдытаў. На думку ЕАБР, пераход дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі *«на камерцыйныя рэйкі прывядзе да аптымізацыі іх выдаткаў і рэсурсаў, уключаючы працоўныя, што павысіць узровень беспрацоўя ў краіне»*.

## Надежда в Минске

Завтра в концертном зале «Верхний город» состоится сольный концерт Надежды Кучер. Понадобилось почти полгода, чтобы о певице, победительнице одного из престижнейших международных конкурсов BBC Cardiff Singer of the World (именно с этого конкурса, например, много лет назад началась блистательная карьера Дмитрия Хворостовского), заговорили наконец и в Минске. И еще почти полгода, чтобы продюсеры смогли пригласить Надежду Кучер, обладательницу нескольких премий «Золотая маска», солистку Пермского оперного театра, в один из концертных залов белорусской столицы.

**Елена МОЛОЧКО.**

**ДЫПКУР'ЕР**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА: «У нас з Польшчай агульная адказнасць за бяспеку ў рэгіёне»

Учора Аляксандр Лукашэнка прыняў даверчыя граматы паслоў Аўстраліі, Ганы, Гвінеі, Зімбабвэ, Рэспублікі Карэя, Нікарагуа, Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, Польшчы, Славакіі, Судана, Філіпін, Эфіопіі і Японіі.

«Гэты год прынёс пазітыўныя зрухі ў нармалізацыі нашых адносін з Еўрасаюзам. Безумоўна, мы зацікаўлены ў максімальным паглыбленні ўзаемасувязяў з ЕС, падтрыманні нарастаючай дынамікі нашага супрацоўніцтва», – заявіў беларускі лідар. Адной з важнейшых задач беларускай дзяржавы было і застаецца наладжванне добрасуседскіх адносін з Польшчай, сказаў Аляксандр Лукашэнка, прымаючы даверчыя граматы пасла гэтай краіны ў Беларусі **Конрада Паўліка**. «У нас не толькі агульная граніца, развітая гандлёва-эканамічная, рэгіянальная кааперацыя, але і агульная адказнасць за бяспеку ў рэгіёне», – падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Вельмі перспектыўным для Беларусі партнёрам у ЕС з'яўляецца і Славакія. «Мы цэнім уклад вашай краіны ў стварэнне новай атмасферы для нармалізацыі адносін па лініі Беларусь–ЕС. Разлічваем, што Славакія ў час свайго старшынства ў Савеце ЕС у другім паўгоддзі 2016 года акажа садзейнічанне далейшаму развіццю нашых сувязяў з Еўрасаюзам. Спадзяёмся на ўмацаванне двухбаковага супрацоўніцтва», – заявіў А.Лукашэнка, прымаючы даверчыя граматы пасла Славакіі ў Беларусі **Ёзафа Мігаша**.





**Падчас уручэння даверчых грамат.**

**Аляксандр Лукашэнка з паслом Польшчы Конрадам Паўлікам.**

**ПАМЯЦЬ**

# Тут усё прасякнута духам Васіля Быкава…

*У маі 2014 года афіцыйна адкрыўся Музей-дача Васіля Быкава, аднак праз паўгода быў зачынены. Адразу папаўзлі чуткі, маўляў, сённяшняй уладзе не патрэбна нічога, што звязана з імем ВЯЛІКАГА ПІСЬМЕННІКА. Аднак ніякай палітычнай ці ідэалагічнай падаплёкі ў гэтым не было – музей зачынілі планава, каб давесці будынак да ладу. І пасля заканчэння ўсіх неабходных работ дзверы дачы Быкава зноў адчыніліся для наведвальнікаў. Здарылася гэта месяц таму.*

*Напярэдадні быкаўскіх дзён, якія адзначаюцца ў Беларусі ў чэрвені, карэспандэнт "Народнай Волі" пабываў на экскурсіі ў доме, дзе жыў і працаваў сусветна вядомы пісьменнік.*

### Як даехаць?

Галоўная праблема для наведвальнікаў музея-дачы Васіля Быкава – як знайсці лецішча пісьменніка?

Да дачнага пасёлка "Ждановічы-6" можна дабрацца двума спосабамі. Калі вы едзеце на ўласным аўтатранспарце, дык вам неабходна з'ехаць на МКАД у канцы праспекта Пераможцаў і шукаць шыльду з адпаведным надпісам. Праблема ў тым, што яе з дарогі не бачна, месціцца яна на мяжы самога дачнага пасёлка. Ніякага ўказальніка пра тое, дзе знаходзіцца музей Быкава, у раёне МКАД пакуль няма.

Для тых, хто вырашыць адправіцца на дачу Быкава на грамадскім транспарце, задача ўскладняецца. Даехаўшы на аўтобусе №219 да прыпынку "Рэспубліканскі інтэрнат ветэранаў вайны і працы", вы таксама не ўбачыце ніякіх указальнікаў. Перайшоўшы дарогу, можна знайсці схему дачнага пасёлка "Ждановічы-6". На ёй будынак Васіля Быкава пазначаны. Аднак да яго недзе з кіламетр. Па дарозе зноў жа няма ніякіх указальнікаў.

Абяцаюць, што яны там хутка з'явяцца і тады трапіць на Вінаградную, 62 у дом, дзе жыў і працаваў Быкаў, будзе прасцей.

### Дом як дом

…За невысокім жалезным плотам зялёнага колеру побач з пясчанай дарогай стаіць двухпавярховы будынак са светла-шэрай цэглы. Сціплы, акуратны, дагледжаны. Звычайны дом, зусім не раўня катэджам, у якіх жывуць сённяшнія чыноўнікі, спартсмены, спевакі...

На ўчастку ў 11 сотак растуць бярозы, з-за якіх Васіль Уладзіміравіч і набыў гэты кавалачак зямлі. Вельмі яму спадабаліся гэтыя дрэвы, пісаў ён у сваёй "Доўгай дарозе дадому". Пад дрэвамі – драўляная альтанка, якую ўласнаручна пабудаваў пісьменнік.

Плошча дома, які ўзводзіўся са снежня 1983 па красавік 1985 года, – 104 квадратныя метры. Будынак мае цікавую адметнасць: унутраная прастора не падзелена перакрыццем, таму атрымліваецца памяшканне з вельмі высокай столлю.

На ганку мяне сустракае супрацоўніца музея – **Анастасія Смірнова**.

– *Музей і сапраўды зачыняўся на нейкі тэрмін,* – расказвае яна. – *Трэба было вырашыць шэраг побытавых і тэхнічных пытанняў. Усталявалі пажарную сігналізацыю, у пакоях Васіля Уладзіміравіча абнаўляліся шпалеры, штосьці рабілася на мансардзе. Ідэя музея ў тым, каб захаваць усё так, як было пры Васілю Уладзіміравічу. Гэта яго мемарыял, захаванне памяці аб ім. Тут трэба пабываць, каб прасякнуцца ягоным духам, ягонай творчасцю, бо кожны сантыметр плошчы звязаны з жыццём і творчасцю сусветна вядомага пісьменніка.*

### Гасцінная хата

Разам з Анастасіяй заходзім унутр дома. На першым паверсе – гасцявая зона. Быкаў любіў і ўмеў прымаць гасцей. Парог гэтага дома пераступалі Алесь Адамовіч, Генадзь Бураўкін, сакратар ЦК КПБ Аляксандр Кузьмін, пры дапамозе якога Быкаву і быў выдзелены гэты ўчастак, кампазітар Ігар Лучанок, які мае дачу па суседстве, і многія-многія іншыя…

Памяшканне ўмоўна падзелена на дзве часткі: у адной стаяць два крэслы, на стале паміж імі – прайгравальнік. Васіль Уладзіміравіч вельмі любіў музыку, адной з самых улюбёных песняў Быкава была "Шумлівыя бярозы" на словы Янкі Купалы.

***(Заканчэнне на 3-й стар.)***

**ГАЗЕТА–ЧЫТАЧЫ**

*Калі хочаш лепшай долі –*
*Памажы "**НАРОДНАЙ ВОЛІ**".*
*У свеце **ПРАЎДЫ** жыць імкніся,*
*На газету падпішыся!*
*Мілыя, добрыя людзі!*
*Будзем разам*
*і ў другой палове 2016 года.*
*Вы – з "Народнай Воляй",*
*"Народная Воля" – з Вамі!*




Падпісацца на нашу і Вашу газету можна ў любым паштовым аддзяленні і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".

Калі ў ліпені альбо ў жніўні Вы вырашылі адпачыць на лецішчы за горадам, гэта не павінна пазбавіць Вас магчымасці трымаць у руках "Народную Волю". Нехта з родных, блізкіх раз-пораз будзе наведваць Вас, а таму ўпаўнаважце каго-небудзь забіраць свежыя нумары на пошце – і Вы будзеце пастаянна з любімай газетай.

**Рэдакцыя.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
7 ЧЭРВЕНЯ 2016 г.

АСОБА

# Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ: «Я ў беларускіх рэчках утапіў пяць фотаапаратаў...»

*Я заўсёды захапляўся творчасцю Сяргея Плыткевіча, з якім, дарэчы, у 1990-я давялося разам працаваць у "Народнай газеце", галоўным рэдактарам якой тады быў Іосіф Сярэдзіч. Здымкі Плыткевіча – жывыя. Сёння яго называюць самым вядомым фатографам дзікай прыроды Беларусі...*



– Мяне яшчэ ў дзіцячыя гады цягнула да творчасці, – кажа суразмоўца. – Памятаю, у 7-м класе пад Новы год маці на 13-ю зарплату купіла фотаапарат "Вілія" і фотапавелічальнік. Тады пайшла нейкая хваля ў гэтым накірунку, бацькі яшчэ двух маіх аднакласнікаў купілі фотакамеры. Мы пачалі рабіць першыя здымкі... Але ў выніку пасля васьмі класаў я паступіў у Полацкі лясны тэхнікум. Шчыра кажучы, на той момант яшчэ нават не ўсведамляў, што гэта старажытнейшы горад краіны. Наш дэндрапарк, дарэчы, знаходзіўся на тэрыторыі цяперашняга Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

**– А чаму выбраў менавіта лясны тэхнікум?**

– Мяне цікавілі лес, прырода... У школе стварыў "зялёны патруль" – агароджвалі мурашнікі, дзяўблі лёд, каб рыба магла дыхаць, вешалі шпакоўні. Акрамя таго, я пісаў у часопіс "Юный натуралист", адказваў на розныя пытанні. Аднойчы дзікага кабана назваў "дзіком", дык у часопісе не маглі зразумець, што гэта слова азначае. А ў нас, на Палессі, толькі так і казалі. Памятаю таксама, падчас вучобы настаўнік рускай мовы дае заданне: "Дети, назовите однокоренное слово к слову «сапог». Я адразу руку ўгору. Адказваю: "Чобат". Настаўнік на мяне: "Сам ты – паляшуцкі чобат!"

У тэхнікуме я працягваў актыўна займацца фотасправай (такіх аматараў назбіралася невялікая група) і заўважыў, што на маіх фотаздымках ёсць нейкі рух, жыццё там не спыняецца. Мне нецікава было паставіць чалавека ля помніка і націснуць на кнопку фотакамеры. Мяркую, гэта быў пачатак рэпарцёрскага і мастацкага фота. Было жаданне не спыніць працэс, а перадаць яго.

**– Першыя фота – якія яны былі?**

– Мой першы здымак надрукавалі ў газеце "Чырвоная змена". Падчас практыкі ў тэхнікуме сфатаграфаваў востраў ва Ушацкім раёне. Дарэчы, тады ўжо спрабаваў займацца фотапаляваннем. Першым было фота галкі, зробленае фотаапаратам "Вілія" з прыстаўленым да аб'ектыва... тэатральным біноклем.

**– Адным словам, на факультэт журналістыкі ты ішоў транзітам праз лясны тэхнікум...**

– Полацкі лясны тэхнікум для мяне стаў суровай школай выжывання. Па-першае, там "дзедаўшчына" была нават большая, чым у арміі. Па-другое, горад быў разбіты на тэрыторыі, і кожную з іх кантралявалі свае групоўкі. Мы, напрыклад, сябравалі з Цэнтральным раёнам, але ваявалі з "цаглліннікамі". По горадзе хадзілі, як па мінным полі. Зловяць на чужой тэрыторыі – мала не будзе, без зубоў застанешся. Калі падчас бойкі не пабяжыш дапамагаць сваім – атрымаеш затым яшчэ больш.

Дарэчы, тады палякі ў Наваполацку будавалі нафтаправод "Дружба" і, натуральна, прадавалі мясцовым розныя курткі, джынсы... Гэта ж быў такі дэфіцыт, а мы як крутыя хадзілі!

Тэхнікум я закончыў з чырвоным дыпломам, таму было права выбару любога ВНУ для паступлення. Выбраў факультэт журналістыкі БДУ. Да слова, я зусім не ведаў замежных моў, таму ў мяне заставаўся толькі адзін шанц паступіць – здаць першы экзамен на выдатна. І я гэты шанц выкарыстаў. На пяць балаў напісаў сачыненне "Васіль Пяскоў – мой ідэал у журналістыцы".

**– Студэнцкія гады – прастора для творчасці...**

– Безумоўна, быў творчы рух, канкурэнцыя. Памятаю, спаборнічалі з Сашам Валошыным. І вось ён запрашае ў госці. У старым доме – асобны пакой. Сцены пафарбаваны ў чырвоны колер. На стале – пішучая машынка, у ёй – чысты ліст і надрукавана "Аляксандр Валошын. Раман...". Карацей, вырашыў шакіраваць гасцей. Своеасаблівая канкурэнцыя.

Сам я жыў у інтэрнаце і аднойчы падумаў, што варта было б і ў арміі пабываць, бо ўсе мае сябры з тэхнікума аддалі даніну радзіме. Праўда, хацелася і ў армію схадзіць, і журналісцкую кваліфікацыю не згубіць. І тут мне адзін знаёмы параіў падацца ў Печы пад Барысавам. Там, маўляў, ёсць вайсковая часць, дзе патрэбны журналісты ў ваенную газету. Карацей, паехаў я да начальніка палітаддзела дывізіі "ў армію ўладкоўвацца". Прывёз свае рэпартажы, фотаздымкі. "Малайчына, – кажа. – Калі цябе будуць забіраць у армію, патэлефануй нам, каб даслалі "купцоў". У выніку на гэтае месца знайшліся "блатныя" людзі, а мяне накіравалі ў іншую вайсковую часць, якая, дарэчы, знаходзілася праз плот ад той, куды марыў трапіць. Аднойчы пералез праз той плот, прыйшоў у штаб да палкоўніка, кажу: "Гэта я – радавы Плыткевіч. Можа быць,



вы пра мяне забыліся?» У таго ад маёй нахабнасці ледзь вочы на лоб не вылезлі!

**– А праўда, што ты пісаў рапарт, каб накіравалі служыць у Афганістан?**

– Мне падавалася, што Афганістан – гэта такая рамантыка!.. Але ж не пусцілі. Дарэчы, у арміі зрабіў шмат цудоўных здымкаў, нават пэўны блат займеў, бо чалавек з фотаапаратам там – паважаная асоба.

А на трэці курс я вярнуўся ўжо з вялікім жаданнем працаваць, таму пачаў супрацоўнічаць з "Чырвонай зменай", газетай "На страже Октября"... Пасля таго як грымнуў Чарнобыль, накіраваўся ў камандзіроўку туды. Тым больш што я мог і пісаць, і фатаграфаваць. Такая ўніверсальнасць таксама сыграла сваю ролю ў маім жыцці.

**– Затым ты трапіў у "Народную газету". У 1990-я – зорны час выдання...**

– Туды я перайшоў з прафсаюзнага "Беларускага часу". Іосіф Сярэдзіч, які ў той час быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і галоўным рэдактарам газеты, як магутны лакаматыў павёў "Народную газету" наперад. Калектыў быў таленавіты, часы цікавыя... А я працаваў і загадчыкам аддзела інфармацыі, і палітычным аглядальнікам, і загадчыкам аддзела ілюстрацый.

**– Працаваць палітычным аглядальнікам у 90-я было цікава?**

– Натуральна. 90-я – гэта час перамен, развалаіўся Савецкі Саюз... Тады, калі ўтварылася незалежная краіна, было адчуванне, што журналісцкае слова іграе вялікую ролю. Я ехаў у Нагорны Карабах і думаў: "Навошта армяне ваююць з азербайджанцамі? І ў адных ёсць Народны Фронт, і ў другіх. Усе – за справядлівасць, роўнасць і брацтва. Трэба ўзяць інтэрв'ю ў кіраўнікоў абодвух франтоў, надрукаваць іх, а палітыкі пачытаюць мае творы – і канфлікт знікне". Наіўны дурань быў! Сёння я разумею, што ні ў якой грамадзянскай вайне няма абсалютнай справядлівасці. Калі на вайне ў крыві перамешваюцца шматгадовыя крыўды, то журналісцкае слова губляе сэнс. І асабліва губляе сёння, калі гэтае слова абясцэнілася. Тысячы выданняў, тысячы сайтаў, ідзе паток інфармацыі, і не зразумела, хто на каго працуе. Ілгуць і справа, і злева. Таму палітычная журналістыка ў 90-я і зараз, як кажуць, дзве вельмі вялікія розніцы.

**– У тыя часы тэм для фотатворчасці таксама хапала...**

– Усё залежала ад тэматыкі. Калі займаўся журналістыкай, то ў аб'ектыве больш было палітычнага жыцця – мітынгаў, забастовак... На той момант мне падавалася, што гэта прынцыпова важна, таму што яно адлюстроўвае тое жыццё, якім жыла краіна. У мяне, маладога палітычнага аглядальніка, з'явілася нейкая вядомасць, у рэгіёнах людзі пазнавалі...

Але з часам адбылася вельмі цікавая рэч. Як толькі я зрабіў крок убок – перайшоў з



палітычнай журналістыкі ў спецыялізаваную (турыстычна-выдавецкую) і патрапіў у іншы асяродак, то апынуўся ледзь не ў шокавым стане! Аказалася, што сур'ёзна палітыкай цікавіцца 3–4 працэнты насельніцтва. Калі ты ў гэтым коле круцішся, то думаеш, што палітыкай цікавяцца ўсе. Гэта такая своеасаблівая суполка – як у сацыяльных сетках. Але калі сышоў у турыстычную сферу, то зразумеў, наколькі мой палітычны досвед далёкі ад рэальнага жыцця. І ў турыстычным бізнесе трэба было ўсё пачынаць з нуля – зарабляць аўтарытэт, нейкія грошы...

Дарэчы, з Іосіфам Сярэдзічам мы развіталіся на хвалі ўзаемапаразумення, і я ўдзячны яму за тую навуку, што ён мне даў. Была, натуральна, прапанова застацца ў газеце (і нават з павышэннем аклада), але ў мяне былі свае ідэі, свая справа і свая газета "Туризм и Отдых". Выбар быў зроблены.

**– Адным словам, пайшоў у бізнес...**

– Тады я думаў у першую чаргу не пра грошы, а пра перспектывы развіцця справы. Да слова, вельмі хутка ўдалося пагасіць выдаткі і вярнуць даўгі. Мы не кідаліся ў вір з галавой, але ў 90-я пачаць нейкі бізнес-праект было куды лягчэй. Гэта як першыя амерыканскія пасяленцы, якія несліся наперад і займалі найбольш урадлівыя землі... Першым было складаней і адначасова лягчэй.

Напачатку была турыстычная газета, адкрыццё новых краін, у якіх раней ніколі не быў. І ўжо затым прыйшло разуменне, што мы, беларусы, павінны станавіцца такімі ж нармальнымі, як і ўсе астатнія. Гэта як на дачы. Спачатку – агарод, бульба, агуркі. Затым – кветкі, альпійскія горкі, штучныя азёры. Таму з часам разумееў, што трэба больш працаваць на Беларусь і казаць пра Беларусь. І пачынаючы прыкладна з 2000-х гадоў я пачаў здымаць усё, што тычыцца нашай краіны, – краявіды, падарожжы... Спачатку рабілі больш матэрыялаў для газеты, а потым гэта перарасло ў выдавецкую дзейнасць. Выпускалі літаратуру пра Беларусь, сталі дастаткова вядомым спецыялізаваным выдавецтвам. Выйшлі кнігі "Мая Беларусь", "Беларуская экзотыка", "Ад Полацка пачаўся свет", "Нечаканая Беларусь", "Жизнь в центре Европы", "Планета Беларусь"...

**– На тваіх здымках (асабліва з вышыні птушынага палёту) Беларусь больш сімпатычная, чым з акна машыны.**

– У свой час я для сябе зрабіў прынцыповую выснову: ёсць розныя жанры, каб падаць нейкі інфармацыйны матэрыял. І калі мы робім прэзентацыйную літаратуру аб краіне, то запрашаем людзей у госці. Вы ж, калі запрашаеце ў госці, мыеце кватэру, накрываеце стол, каб не сорамна было перад людзьмі. Таму хіба варта паказваць смецце? Да таго ж, як мне бачыцца, калі чалавек даведаецца, што ён жыве не проста ў горадзе, а ў горадзе-музеі, можа, і да яго прыйдзе разуменне, што смецце трэба прыбраць.

Я разумею тых беларускіх інтэлігентаў, якія ў 20–30-я гады мінулага стагоддзя займаліся папулярызацыяй роднай краіны. Народ павінен ведаць гісторыю і ганарыцца ёй. І для мяне вышэй за ўсё – Радзіма, а значыцца – інтарэсы гэтай зямлі. І працаваць трэба на стварэнне, а не на разбурэнне. Палітычная журналістыка – гэта якраз і ёсць барацьба, накіраваная на знішчэнне створанага ідэйнага ворага. А мы ў турыстычнай галіне паказваем патэнцыял краіны, зацікаўлены ў тым, каб да нас прыязджалі госці. І ствараем прадукт, які садзейнічае гэтаму, – выпускаем кнігі, альбомы пра краіну. Мяркую, што іду правільным шляхам.

**– Прыемна, калі цябе называюць самым вядомым фатографам дзікай прыроды Беларусі?**

– Шчыра кажучы, я вельмі крытычна стаўлюся да нейкіх кампліментаў ці пахвальбы. У мяне шмат сяброў, якія захапляюцца маімі работамі, а я, напрыклад, імі не заўсёды задаволены. Хаця, з іншага боку, магчыма, маё прозвішча і на слыху. Але ж сутнасць не ў гэтым. Галоўнае – дзеля чаго ўсё робіш. Напрыклад, не так даўно мы зрабілі Фонд падтрымкі дзікай прыроды "Чырвоны бор". У мінулым годзе выдаткавалі фінансаванне для вучоных, якія праводзілі навуковыя даследаванні ў прыродным комплексе "Чырвоны бор". Рэальная карысць! Апошнія два гады я фактычна жыву глабальным праектам, які, на мой погляд, стане самай галоўнай справай у жыцці – робім сайт пад назвай "Планета Беларусь". На партале будуць усе славутыя мясціны краіны, прыгажосці, каляндар падзей, турыстычныя маршруты... Усё такім чынам структурыравана, што любы чалавек, які захоча наведаць тое ці іншае месца ў Беларусі, адкрые сайт і знойдзе для сябе абсалютна поўную інфармацыю. Вось, калі ўсё гэта дараблю, то буду дакладна ведаць: недарэмна таптаў гэтую зямлю Сяргей Плыткевіч...

**– Калі ты ездзіў у "гарачыя кропкі", гэта былі дастаткова небяспечныя камандзіроўкі. Падчас фотаздымак дзікай прыроды таксама прысутнічае элемент рызыкі?**

– Безумоўна! Я вось, напрыклад, не разумею, калі чалавек сядзіць на беразе ракі і цягае вудой адну рыбіну за другой. У мяне іншы азарт: сфатаграфаваць ласа, аленя... Дарэчы, зараз мы аб'явілі адкрыты нацыянальны фотаконкурс "Залатая рысь".

А што тычыцца рызыкі, то яна, мяркую, паўсюль ёсць. Я, дарэчы, у беларускіх рэчках утапіў пяць фотаапаратаў. Аднойчы фатаграфаваў арла-беркута. На маленькім востраве сярод балота мой сябар арнітолаг Уладзімір Іваноўскі знайшоў на дрэве гняздо арла, павесіў на суседнім дрэве "засідку". Я з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў залез туды і пачаў чакаць, пакуль прыляцяць дарослыя птушкі. І тут пачынаецца моцны вецер, дождж. Мяне хістала на вяршыні дрэва на пяць метраў улева-ўправа. Ціха сядзеў на той вышыні і думаў толькі пра адно: куды звалюся? Дзякуй Богу, усё абышлося. Зрэшты, да такіх рэчаў я стаўлюся спакойна і мяркую, што кожнаму чалавеку наканавана сваё.

**– Апошняе, што хацеў бы спытаць: ці прывабная сёння для замежнікаў турыстычная Беларусь?**

– Па-першае, не трэба наіўна думаць, што сёння мы запросім турыстаў, і ўсе адразу кінуцца сюды. Па той простай прычыне, што гэтак жа думаюць і нашы бліжэйшыя канкурэнты – тыя ж літоўцы, палякі ці расіяне... Іншая справа, што заўсёды ёсць палітычныя і эканамічныя складнікі любога турбізнесу. Вось зараз пасварыліся расіяне з украінцамі і туркамі – у Беларусі з'яўляецца куды больш шанцаў, каб турысты прыехалі да нас. Але пры гэтым мы робім такія змрочныя ўмовы перасячэння мяжы, што замежны турыст некалькі разоў падумае, ці варта ехаць у такое падарожжа. Навошта яму плаціць 60 долараў за візу, стаяць у чарзе на мяжы ды праходзіць нагляд, калі можна бясплатна адпачыць у Літве ці Польшчы? У гэтым плане мы неканкурэнтаздольныя.

Але ў той жа час хачу адзначыць: тыя турысты, што пабывалі ў Беларусі, проста ў захапленні ад краіны. Таму нам у гэтым накірунку трэба працаваць і працаваць.

**Алесь СІВЫ.**

МОЗАИКА

## Азаренко – вне игры

*Вчера в Ноттингеме стартовал теннисный турнир, в котором белорусская теннисистка Виктория Азаренко, увы, не примет участия.*

Причина – травма колена, из-за которой пятая ракетка мира выбыла в первом раунде «Ролан Гаррос».

*«Я очень расстроена, что мне пришлось сняться с турнира в Ноттингеме*, – написала Вика на своей странице «ВКонтакте». – *Я приехала сюда несколько дней назад и начала тренироваться, но поняла, что мое колено не восстановилось на 100 процентов. Я хотела тут сыграть. Сам турнир отлично организован, меня тут прекрасно принимают, а корты очень высокого качества. Надеюсь вернуться сюда через год».*

ФУТБОЛ

## «Крумкачы» працягваюць пагоню за БАТЭ

*Адбыліся матчы 10-га тура чэмпіянату краіны па футболе ў вышэйшай лізе.*



Дэбютант лігі – мінскія "Крумкачы" – па-ранейшаму прыемна здзіўляюць сваіх балельшчыкаў. У чарговым туры яны атрымалі пятую перамогу ў чэмпіянаце і ідуць на другім месцы ў турнірнай табліцы пасля барысаўскага БАТЭ.

Усе вынікі: "Белшына" (Бабруйск) – "Гарадзея" – 0:2, "Віцебск" – "Слуцк" – 2:0, "Дынама" (Брэст) – "Дынама" (Мінск) – 1:4, "Нёман" (Гродна) – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 0:3, "Крумкачы" (Мінск) – "Нафтан" (Наваполацк) – 2:0, "Іслач" (Мінскі раён) – "Славія" (Мазыр) – 0:1, "Мінск" – "Шахцёр" (Салігорск) – 1:0, БАТЭ (Барысаў) – "Граніт" (Мікашэвічы) – 4:0.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 9 | 7 | 1 | 1 | 25–11 | 22 |
| 2. Крумкачы | 10 | 5 | 2 | 3 | 12–9 | 17 |
| 3. Дынама (Мн) | 10 | 4 | 5 | 1 | 16–11 | 17 |
| 4. Мінск | 10 | 5 | 2 | 3 | 13–12 | 17 |
| 5. Тарпеда-БелАЗ | 10 | 4 | 4 | 2 | 15–10 | 16 |
| 6. Славія | 10 | 4 | 3 | 3 | 13–13 | 15 |
| 7. Шахцёр | 10 | 4 | 2 | 4 | 10–9 | 14 |
| 8. Іслач | 9 | 4 | 1 | 4 | 11–11 | 13 |
| 9. Віцебск | 10 | 4 | 1 | 5 | 11–8 | 13 |
| 10. Гарадзея | 10 | 3 | 3 | 4 | 7–8 | 12 |
| 11. Граніт | 10 | 2 | 6 | 2 | 10–12 | 12 |
| 12. Белшына | 10 | 2 | 5 | 3 | 16–17 | 11 |
| 13. Дынама (Бр) | 10 | 3 | 2 | 5 | 15–23 | 11 |
| 14. Нафтан | 10 | 2 | 3 | 5 | 7–13 | 9 |
| 15. Слуцк | 10 | 2 | 3 | 5 | 7–13 | 9 |
| 16. Нёман | 10 | 1 | 3 | 6 | 5–13 | 6 |

ПАЭЗІЯ – ГОСЦЯ НЯБЕСНАЯ

*Першая кніга вершаў Андрэя Бастунца "У непараднога подъезда" была падрыхтавана да друку дзесяць гадоў таму, але толькі сёлета пабачыла свет. Яна фактычна цалкам уключана ў зборнік "Доказательства движения", які нядаўна апынуўся ў руках аматараў паэзіі. Андрэй Бастунец піша вершы на дзвюх мовах – беларускай і рускай.*



Андрэй БАСТУНЕЦ

### ...Нібыта Бога не існуе

*Усё*
*Усё больш*
*Усё больш і больш*
*Усё больш і больш людзей*
*Усё больш і больш людзей існуе*
*Усё больш і больш людзей існуе так*
*Усё больш і больш людзей існуе так,*
*нібыта Бога не існуе*
*Усё больш і больш людзей існуе так*
*Усё больш і больш людзей існуе*
*Усё больш і больш людзей*
*Усё больш і больш*
*Усё больш*
*Усё.*

### Варыяцыя

*Ну что же – не хочешь, не надо,*
*Прощай, уезжай, не жалей.*
**Игорь Чиннов**

Калі не жадаеш – не трэба.
Бывай, не шкадуй ні аб чым.
Паўсюль тое самае неба
і тое ж бяссонне ўначы.

Паўсюль, дзе б ты ні засталася,
і ўсюды, куды б ні пайшла,
я буду ў мінулым у часе, –
глядзець з-за вагоннага шкла.

Цягнік пераволіць паволі
інерцыю нашых сустрэч.
Даволі кахання і болі –
нам хопіць надоўга, самрэч.

Даволі лістоў і акацый.
Прабач, калі нешта не так.
Што ўбачымся не ў хуткім часе,
мы маем сто шанцаў са ста.

Паслухай, а лепей не слухай:
нічога амаль не было –
ўтрапёнасці, дотыкаў, рухаў, –
калі і было, дык прайшло.

Чакаць, спадзявацца дарэмна,
ў адчай упадаць без прычын
калі не жадаеш – не трэба.
Бывай, не шкадуй ні аб чым.

***

Вецер
увечары
гоніць пажухлае лісце ўгору.
Вяртаюся.
А зранку,
перагортваючы старонкі Кнігі дзён,
думаю:
як мала іх засталося.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

9 772071 964000 16043



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 06.06.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 600 экз. Заказ № 2291